паўднёвавелікарускіх, то нават да паўночнавелікарускіх, адзначым далей.

Тут толькі адзначым тыя рысы, якія, не будучы пашыранымі ні ў адной з іншых усх. славянскіх моў (хоць і сустракаюцца ў іх спарадычна, выпадкова), яўляюцца агульнымі для беларускай і польскай моў. Гэта: 1) дзеканне і цеканне, г. зн. вымаўленне мяккіх *д* і *т*, як *дз* і *ц*: *дзень, дзядзька (дзяцька), дзікі; цёмны, цяміць, цётка, ціхі, цюцька* і пад.

2. Цвёрдае ва ўсіх палажэннях («ацвярдзеўшае») *р*, якое ў украінскай мове знаходзім пашыраным толькі ў паўночнай яе падмове, а ў беларускай — ва ўсёй паўднёва-заходняй падмове і ў большай часці паўночна-ўсходняй.

## Падзел беларускай мовы на падмовы (наречия)

Беларуская мова заметна распадаецца на дзве падмовы. Да адной належаць, агульна кажучы, гаворкі Віцебшчыны, Смаленшчыны (у яе беларускай частцы) і Магілёўшчыны; гэта — паўночна-ўсходняя падмова беларускай мовы.

Да другой належыць рэшта беларускіх гаворак, г. зн. гаворкі Меншчыны, Гарадзеншчыны і Віленшчыны; гэтыя гаворкі складаюць падмову паўднёва-заходнюю.

Кожная з гэтых дзвюх падмоў мае такія рысы, якія, аб'ядналючы ў яе межах паасобныя гаворкі, разам з тым адрозніваюць яе ад гаворак другой падмовы. Такімі рысамі для паўночна-ўсходняй падмовы яўляюцца:

а) Дысімілятыўнае аканне; г. зн., што на месцы ненацiскных *а* і *о* пасля цвёрдых зычных у пераднацiскным складзе маем вельмі часта не *а*, але гук няясны, блізкі да *ы*, калі ў націскным складзе *а*: напр., *ныга, выда, блыха;* але *нагу, ваду, блаху* і пад., б) па таму ж закону і дысімілятыўнае яканне: *біда, віла,* але *бяду, вяду* (трэба адзначыць, што гэтая рыса — дыялектычная).

в) У паўночнай частцы тэрыторыі паўночна-ўсходняй падмовы (паўночная Віцебшчына і паўночна-зах. Смаленшчына) сустрак. мешаніна гукаў *ч* і *ц*. Гэткая ж мешаніна, праўда, заўважаецца і на заходняй акраіне беларускай моўнай тэрыторыі, напр., у заходняй частцы Гарадзеншчыны (гл.: Е. Романов. Матер. по этнографии Гродненской губ. 1912 г., вып. 2). Прычым тут маецца не толькі мешаніна *ч* і *ц*, але і мешаніна *ж* і *з, ш* і *с: псэніча (пшаніца), едуцы (едучы), жвязут, у дарожы (у дарозе), вяжалі,*



*зэніўшэ (жаніўся)*. У Віцебшчыне і Магілёўшчыне сустракаецца яшчэ так зв. «цоканне», страта *ч*, на яго месцы ст. *ц*.

г) Канчатак 3-й ас. адз. л. 1-га спражэння заўсёды *-ць* (стараж. *ть*): *вядзець, нясець*.

д) Глухое вымаўленне звонкіх зычных на канцы, а таксама ў сярэдзіне слова перад наступным глухім зычным: *гат, лат, сат, вотка, каска, граскі* і г. д.

Паўднёва-заходняя падмова вызначаецца: а) адсутнасцю дысімілятыўнага акання. б) Побач з моцным яканнем маецца такжа і на месцы ненацiскнога *е* (але пераважна не дысімілят.). в) Канчатак перш. асобы мн. л. цяперашняга часу дзеясловаў, у якіх аснова на цвёрд. зычны,— на *-ом: нясом, пяком, вядом*; паўноч.-усх.: *нясем* і г. д. г) 2-я асоба таго ж часу і ліку — на *-е: несяце, берацe, дасьце, спіце* і пад.; паўночн.-усх. *бярыцё, дасцё* і пад.; д) 3-я ас. адз. л. ад дзеяслова *быць* у паўднёва-зах. падм. часцей *есць, ест, е*; у паўн.-усх. *ёсць, ёсь, ё*. е) Заг. лад на *-еця: бярэця, нясеця*. ж) Часта, хоць і дыялектычна толькі, вымаўленне звонкіх зычных на канцы слова і ў сярэдзіне перад глухімі зычнымі: *год, гразь, гразкі* і г. д.

Апрача гэтага, на акраінах абедзвюх гутарак маем такія гаворкі, у якіх заўважаецца, з аднаго боку, страта некаторых рыс, характэрных для дадзенай падмовы ў цэлым, а з другога—заўважаецца шэраг рыс, якія ўжо характэрны для суседніх, сумежных моў — у паўночн. белар. падмове паўночна- і паўднёвавелікарускіх, а ў паўднёва-беларускай падмове сустракаюцца рысы, характ. для гаворак украінскіх і польскіх.

Пад уплывам паўднёвавелікарускай гутаркі акраінныя паўночна-ўсх. белар. гаворкі ўспрынялі ў сябе некаторыя рысы вялікарускія: а) мяккія *р* і *ч*, б) на месцы *жджс, шч* з'яўл. *жж, шш: дожж, ежжу, ішшу, пушшу* і пад., в) страчваюць часам: дзеканне і цеканне, *ў*, доўгія мяккія зубныя зычныя *(свіньня, гразью* і пад.), пераходнае памякчэнне заднянёбных у дав.-месн. склоне (зам. *назе, руце — наге, руке* і пад.); гэтыя гаворкі маюць дажа прыметныя канчаткі на *-ой (худой, злой)*, з родным на *-ова (худова)* і наз. мн. л. на *-а (города, леса)*. Да пераходных ад беларускіх да паўночнавелікарускіх гаворак трэба аднесці гаворкі крайняй поўначы белар. моўнай тэрыторыі.

Такія ж пераходныя гаворкі заўважаюцца і ў сумежнасці паўднёва-зах. бел. падмовы з украінскімі гаворкамі.

Гэта: а) дыфтонгі *уо, іе (вуол, нюос, біег)*, аб якіх падробна далей.

б) Канчатак наз. мн. л. на *-э, -е: панэ, лясэ, хлапцэ, пале, рубле; рублie, паныэ, хлапцыэ;* форма дв. ліку: *дзве руцэ, назе, сасе* і г. д.

в) Канч. мн. л. на *-мо: дамо, ямо* (будзем есці), *глядзімо*.

г) Будучы складаны час з *-іму: рабіцьму, хадзіцімеш* і г. д.

### Гаворкі, пераходныя ад паўн. белар. да паўн. велікарускіх

Гэта гаворкі паўднёвай акраіны Пскоўскай губ. Гэтыя гаворкі прадстаўляюць мешаніну рыс беларускіх з паўночнавелікарускімі.

У гэтых гаворках сустракаюцца: а) рысы чыста беларускія, як аканне (недысімілят.) і дужае яканне. б) *ў* зам. *в* у канцы слова: *здаройя, мяхой...* альбо мешаніна *у* і *в: в меня, в него, вражай* (зам. *у меня, у него, урожай*). в) *ы* на месцы в.р. *о* і *е* ў такіх словах, як: *мыю, шыю, крыю; длы(й), худы(й)*; часта, аднак, тут вымаўляецца і в.р. *о, е* (*крою, мою, шея* і г. д.). г) Есць цэлая група такіх пераходных гаворак, якія цокаюць, дзекаюць і цекаюць*, г. зн., у іх на месцы гукаў *ч* і *ц* чуецца адзін гук: альбо ясны цвёрды — у адных гаворках і мяккі ў другіх — гук *ц*, альбо шапялявае *ц* — цвёрдае ці мяккае (гэта так званае «цоканне» — адзначная рыса пскоўскіх гаворак наогул). У некаторых з гэтых гаворак маем нават тыпічнае для белар. мовы дзеканне і цеканне (*дз* і *ц* мяккія на месцы мяккіх *д* і *т*).

У некаторых мясцовасцях гэтыя дзеканне і цеканне маюць шапялявы і нават проста шыпячы характар; *з* і *с* у іх таксама вымаўляюцца як мяккія шапялявыя, сярэднія паміж *з, с* і *ж, ш* гукі, альбо зусім як *ж* і *ш* мяккія.

д) У скланенні сустрак. у гэтых гаворках уперамешку з канчаткамі на *-а* і канчатак наз. мн. л. *-ы (і)*, як у белар. мове: *лясы, берагі, гарады* і г. д.

е) 3-я асоб. адз. і мн. л. цяперашняга часу звычайна мае канчатак *-ть*, а ў дзеканні і цеканні гавораць *-ць*, як і па-беларуску.

Тут цікава адзначыць, што аканне гэтых пераходных гаворак, якія ўжо няможна лічыць уласна беларускімі, і аканне ва ўсёй паўднёва-зах. белар. падмове — тоесамыя (недысімілятыўныя). Гэта трэба заўважыць для да-

---

* Не блытаць «цокання» і «цекання».



лейшага, калі будзем разглядаць спецыяльнае пытанне аб аканні.

З больш дробных дыялектычных яўленняў у галіне галосных трэба памянуць:

а) Церазліш агубленае вымаўленне (якое паходзіць ад залішняга выстаўлення ўпярод губ) ненацiскных *о* і *ы: за лаўкуй, з доўгуй, палкуй, пусуліў (пасаліў), була, бувала, пупулола* і т. п.

б) Тое ж самае, але пад націскам, дзе лабіяльны гук *о* яўляецца на месцы *а* ў складзе *аў* (з асноўных *ал, ав*): *доў, казоў, узёў, стоў, прынёў, лоўка (лаўка), троўка* і г. д. Такое вымаўленне чуваць у паўночна-заходняй Беларусі (напр., былыя паветы Менскі і Вілейскі). У паўднёвай Беларусі маем такое вымаўленне дажа не пад націскам: *кланёўся; «я ў суседа пабедаў, павячэраоў і падзякаваоў яму»* (І. А. Сербаў. «Белорусы-сакуны», 52).

в) Заўважаецца і адваротнае яўленне — дэлабіялізацыя: *кінаў, саботаю, свіснаў, вялікаю, дробнаю* (він. адз. л.) і пад., таксама: *коршын* (гэтае слова вымаўл. яшчэ: *коршык* і *каршак*), *жолыда, голыба* і г. д. Упрочым, тут можна бачыць і аналогію з такімі формамі, як *выгнаў, работаю, вялікаю, дробнаю* (творн. адз. л.)...

г) На месцы *ы* чуваць іншы раз *а: бала (была), вымала, паказаваць, сказаўба, станцая*.

д) У паўднёвай Беларусі заўважаецца пераход гука *ы* ў *і*, а ў некаторых словах і пераходы *ы* ў *і: млін, цісяча, ніне, вісокі* (але *вышыня*). *«А куди ти»* (Карскі, Матер., *(зикаваць, зик), зыкаваць, зык;* яшчэ — *гізаваць, гіз* — пра кароў) — Дабрав. у Смаленшчыне, а таксама і ў некаторых іншых месцах.

На месцы *а* націскнога маем яшчэ ў паўднёвых белар. гаворках *ы: удырым* (Навагр.), *удырыць, зырко, зырыць — жарка, жарыць* — у сэнсе даваць нагонку (каню, чалавеку).

У галіне зычных гукаў маем такія дробныя асаблівасці:

а) У б. паветах Менскім, Навагрудскім, Барысаўскім, Дзісненскім і інш. заўважаецца страта падаўжэння (падваення) зычных на месцы літарат. рускага мяккага зычнага перад *j*-там: напр., *мядзвежу, зяя* (Меншч.); *гальё, кукаванье, гулянье, лье* (Навагрудчына) і г. д.

б) Як уплыў скарэй за ўсё суседніх украінскіх гаворак у паўднёвай Беларусі можна чуць вымаўленне слоў, у якіх маем губныя зычныя перад мяккімі галоснымі,

з j-там пасля губных: *п'яць, м'ёд, м'яса (пъjац', мъjод, мъjаса)* і пад.

в) У паўночна-ўсх. белар. падмове прымячаецца мешаніна цвёрдага і мяккага *р: гразь, румка; ряд (рады), рясту (расту); рамень, ріба* і пад., якая з'ява сведчыць аб тым, што адно з гэтых *р* тут не грунтоўнае.

г) Блізка ва ўсіх гаворках у асобных словах прымячаецца ацвярдзенне зычных перад галоснымі мяккімі дажа пярэдняга рада.

д) У паўднёва-заходняй Беларусі маем яшчэ т. зв. «саканне», г. зн. вымаўленне займа *ся* як *са*; напр., *забыўса, напіўса, пагрэліса* і г. д. Беларусаў, якія так вымаўляюць, завуць сакунамі*.

е) Можна сустрэць такжа цвёрдае вымаўленне грунтоўнага мяккага *л: палцы, салца, відэлцы, пагарэлцы* і пад.

У такіх словах, як *сэрца, уздэчка* і адчасці *мястэчка*, зычныя *д, т, с* ацвярдзелі блізка ўсюды. Праўда, адначасна сустракаем вымаўленне гэтых слоў і з мяккімі зычнымі; напр. у А. Ҡ. Сержпутоўскага ў яго «Сказках...» вельмі часта сустракаем *серца*; такжа выключна кажуць: *уздзяніца, мясцечка* (часта).

У асобных словах маем і іншыя зычныя ацвярдзеўшымі: *сакеру, на бачыў, парловы, ліха матары* — «Матер...» Ҡарскага; *мэдліць, вочын* (очень) і інш.

Асобную катэгорыю складаюць словы яўна чужаземнага пахаджэння, словы рознага культурнага пахаджэння і значэння. Гэтыя словы сустракаюцца іншы раз з цвёрдымі зычнымі ў тых выпадках, дзе ў рускім літаратурным вымаўленні пераважна маем мяккія. Так, у матэрыялах, сабраных у адказ на праграмы Акад. Навук па збіранню асаблівасцей беларускіх гаворак і выд. пад рэдакц. Я. Ф. Ҡарскага, у запісах В. Шэйна, Раманава і інш. зрэдку сустракаем такое вымаўленне: *дыякан* (Лепел., Навагр.), *Тэкля, ганарал* (Горацк., Шэйн). Але тут жа: *пенсія* (Шэйн, Горацк.). Па ўласных назіраннях аўтара з розных мясцовасцей Бабруйшчыны: *фракціка, фракцік (практыка, практык* — у сэнсе «практычны чалавек»), *(у)ніверсіцет* (такжа *ніверсіцыет*), *арыхмеціка, хвізіка.*

* Гл., напр., апісанне гаворкі «сакуноў» у А. Ҡ. Сержпутоўскага — «Грамматический очерк белорусского наречия дер. Чудина, Слуцк. уезда, Минской губернии» у т. 89 «Сборника отдел. русск. яз. и слов. Акад. Наук» за 1912 г. Рыса гэтая відаць такжа ў яго «Сказках и расск. белорусов-полешуков», 1911. Вельмі каштоўна такжа кніга І. А. Сербава — «Белорусы-сакуны» (Сборн. А. Н. 94. № 1).



*канстітуцыя* і г. д. Нават такія словы часта чуваць без цекання і дзекання: *канстітутія, пазітія, тія, дістіпліна.*

Пры гэтым апошні спосаб вымаўлення такіх слоў культ. значэння — як па запісах народных беларускіх гаворак, так і па жывому ўражанню ад непасрэднага назірання — яўляецца пераважаючым. Можна з пэўнасцю сказаць, што вымаўленне чужаземных слоў з цвёрдымі зычнымі (асабліва перад галоснымі пярэдняга рада) у беларускай мове ў цэлым яўляецца не грунтоўным, але выпадковым, спарадычным (у асобных толькі словах). У такім вымаўленні трэба бачыць уплыў польскага літаратурнага вымаўлення, дзе зычныя *д* і *т* таксама заўсёды цвёрдыя, а чужаземныя словы перадаюцца ў чужаземным вымаўленні.

Толькі што характарызаваныя намі гаворкі можна чуць з вуснаў беларусаў, якія жывуць на прасторы тэрыторый быўш. губерняў: Магілёўскай (поўнасцю), большай часці Віленскай, Гродненскай, Віцебскай і Менскай, палавіне Смаленскай і значнай часці Чарнігаўскай. Нязначныя беларускія элементы сустракаюцца такжа ў Курляндыі, у б. губернях Сувалскай, Ҡовенскай, Пскоўскай, Тверскай, Ҡалужскай і Арлоўскай.

Для знаёмства з беларускай жывой мовай маем даволі матэрыялаў, каштоўнейшыя з якіх паяўляюцца, пачынаючы ад другой чвэрці XIX ст.

Перш за ўсё тут трэба адзначыць сабранне 1) Я. Чачота (+ 1847 г.), 6 кніжак ад 1837—1846 гг.: «Piosenki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny». Найбольш беларускага элемента ў 6-й кніжцы.

У той жа прыблізна час (1847) у Вільне выйшла работа 2) Е. Тышкевіча: «Opisanie powiatu Borysowskiego», у якой маюцца паміж іншымі звесткамі статыстычнага і этнаграфічнага характару і запісы народных песень, з якіх некаторыя зроблены яшчэ ў 1800—1802 гг.

Затым у «Этнаграфічным зборніку» змешчаны (1853—54 гг.): 3) пасловіцы, запісаныя Насовічам, і асобныя словы, запісаныя Мікуцкім,— з Віленшчыны, Гарадзеншчыны і Віцебшчыны. У 1871 г. выходзяць «Белорусские песни» — 4) П. Бяссонава, у якіх многа непаслядоўнасці ў арфаграфіі, як вынік імкнення збіральніка падпраўляць белар. вымаўленне на велікарускі лад.

5) У 1870 г. выходзіць з друку вядомы слоўнік «белор. наречия» І. І. Насовіча, а яшчэ раней у прыбаўленнях да «Изв. о. р. яз. и сл.» 1852 г. «Белорусские пословицы и поговорки», якія лепш былі выданы ў 1847 г. Яго ж «Бело-

русские песни» ў «Записках географического общества по отделу этнографии», т. V (1873).

Многа беларускіх матэрыялаў сабраў П. В. Шэйн (+ 1990 г.). Яго сабранні вядомы ў двух выданнях: 1) «Белорусские песни» («Записки географического общества», V т. 1873, асобна 1874), 2) 4 кнігі «Материалов для изучения быта и языка русского населения сев.-зап. края, собранных и приведенных в порядок Шейном» (1887—1902). Матэрыялы гэта пераважна этнаграфічныя, але ёсць даволі цікавыя і для вывучэння мовы. Варта адзначыць такжа сабранне, зробленае па афіцыяльнаму заданню Магілёўскага віцэ-губернатара Дэмбавецкага. Лінгвістычн. матэрыялы знаходзім у першым томе.

Адначасова з Шэйнам пачаў збіраць матэрыялы па беларускаму фальклору Е. Р. Раманаў (1855—1921). Яго «Белор. сборник» выйшаў у IX выпусках (Кіеў, Віцебск, Магілёў, Вільна, 1886—1912 гг.). Матэрыялы ў гэтым зборніку сабраны на Магілёўшчыне. Гаворкі віцебскія ён характарызуе ў «Материалах по историч. географии Витеб. губ.» (Могилёв, 1898) і гродненскія ў «Материалах по этнограф. Гродн. г.» (Вильна, 1911—1912).

Матэрыялы для характар. гаворак Смаленскай губ. даюць работы В. Н. Дабравольскага: «Смоленский этнограф. сборник» у «Зап. Геогр. о-ва» 1891—1903 і «Смоленский областной словарь» (Смоленск, 1914), выд. на сродкі РАН.

Работы Н. Я. Нікіфароўскага (+ 1910 г.) датык. гаворак Віцебскай г. (очерки Вит. Белор.) у «Этнограф. обозр.» (1892—99 гг.); «Очерки простонар. житья-бытья в Вит. Белор.» ... Віт., 1895 г.; «Простонар. приметы и поверья» (Вит., 1897), «Простонародные загадки» (Вит., 1898); «Белорусские песни «частушки», выданыя Занкевічам (Вільна, 1911 г.). Вельмі каштоўныя работы І. А. Сербава і Л. К. Сержпутоўскага мы ўжо паміналі вышэй. Трэба яшчэ назваць С. Малевіча «Белорусские народные песни» (СПб., 1907).

Польскія этнографы рабілі запісы беларускіх нар. твораў у навейшыя часы. Так, следуе адзначыць В. Дыбоўскага — Przysłowia białoruskie z pow. Novogródzk. у V т. Zbioru wiadomości do antropol. krajowej, выд. Кракаўскай Акадэміяй Навук. Там жа маем змешчанымі зборнікі Вярыгі з прадмовай Карловіча, а ў XVI, XVIII тт. запісы І. А. Бадуэна дэ Куртэнэ з Сакольскага павета Гродненскай г.

М. Федароўскім выпушчана даволі каштоўнае выданне: «Lud białoruski na Rusi litewskiej», 3 тамы, Kraków, 1893—1905. Дадзеныя тут глаўн. вобр. з Гарадзенскай губ.

Каштоўныя таксама — «Edw. Klich. Texty białoruskie z pow. Nowogródzkiego. Krakow, 1903».

Багацейшы матэрыял змяшчаюць у сабе «Материалы для изучения белорусских говоров», якіх да гэтага выйшла ўжо 34 выпускі (пад рэд. ак. Я. Ф. Карскага).

У аснову гэтых «Материалов» пакладзены галоўным вобразам адказы на акадэмічную «Программу для собирания особенностей белорусского наречия» (I выд. 1897 г., II — 1916 г.), складзеную Я. Ф. Карскім.

Маюцца яшчэ вялізныя матэрыялы па беларускай дыялекталогіі ненадрукаваныя. Паміж інш. гэта: Е. Р. Раманава — «Беларускі зборнік» — вып. X, XI, XII, XIII і XIV, рукапісы якіх знаходзяцца на захаванні ў бібліятэцы Акад. Навук у Ленінградзе (належаць 2-му аддзял. Ак. Нав.).

## Узоры беларускіх народных гаворак

### Суражскі павет (Віцебшчына)

Ці ня тошна табе, рэцка
З сінім лёдам раставацца,
Па беражкох разліваццa,
Усё па крутых беражоцкых
Па жоўценькіх пясоцкых?

Хуць і тошна — растаюся
І шырока разальюся.
Ці ня тошна табе, дзеўка,
З малойцыкам раставацца,
Хуць і тошна — дык растанусь,
Я й растанусь — распрышчаюсь.

### Кашавічы

1922 г.

Хажывала, стаівыла пад сонцым
Па крутому беражоцку
Ка (Настасянью) двароцку
Ішла зорацка ракой —
Яе ударыла валной.
Настасянька выхадзіла
Стакан мёду, стакан піва вынасіла
І з рибятым гыварила:
— Не дзівіця, ребяты,
І не дзівіце, маладыі,

Што я к вам неўборная,
Што ня ў беленькай рубахі,
Што ня ў новенькай паневе.

(З сабрання Шлюбскага А. А.)

З таго ж сабрання і з той жа мясцовасці:

«На тым на камушку
Сыма сяду пысяжу
Піцаль, гора рыскажу
... рызашлю».
Априц мілага свайго,
Прыклюцаіцца балесь,
Са і тэй жа субалесці
Пулыцыла скора сьмерць».

А ў гумне, за гумном
Дзеўкі хмель садзілі
Садзюци хмялёцік, яны гаварылі:
Расьці хмялёцік
С карэнням глубокім,
Лісційкам шырокім,
Шишкамі бальшімі.

«У ... садоцку роза рысьцьвітала — усяк стараіцца сырваць.
Калі роза ападала — ўсяк стыраіцца стыптаць.
Приукрасную дзяўцонацку ўсяк стараецца любіць.
Няшчасную дзяўцонацку — ўсяк стараецца забыць».

Наогул цеканне звычайна ў памянёнай мясцовасці.
Запісы Е. Раманава (Белор. сборн., 8-й, 1912).

А я мыладзенька рыстапцу, рыстапцу,
Траўку, мураўку вытыпцу, вытыпцу,
Кыня выраненька выпушчу, выпушчу,
Кароўку-бурёнку выгыню, выгыню,
Разыграўся воран конь, воран конь,
Разбіў камінь кыпытам, кыпытам,
А ў тым камні агня нет, агня нет,
У майго мужа праўды нет, праўды нет:
Ён шшыў Дуні бышмацкі, бышмацкі,
А жане сплёў кывярзьні, кывярзьні:
«Ты насі, жына, пыглідай, пыглідай,
Ды кы празьнікам пыблюдай, пыблюдай.
Ты насі, Дуня, ні жалей, ні жалей».

С. Маклок

Зап. Е. Раманава (вып. 8-й, 1912 г.).

«А иди, прынясі з Дунаю вады»,
Сьвякровачка, мамунька, яшчо ранінька:
Яшчо пятух ні піяў і гусак ні крычаў.
А пашла нявеста ў Дунай, плачучы.
Як зачуў міляныкі, коній пасучы...

Гомельск. у.



Ті ня гусі цябе сащипалі,
Ті ня дзеўкі цябе прытапталі.
— Ой ня гусі мяне сащипалі,
Прытапталі мяне красны дзеўкі
Да ўсё-ж тымі чабатамі рантавымі,
Да ўсё-ж тымі паткоўкамі сталянымі!

Вуліца бурытца, карагод валітца —
Сялязенька касатый, бел малотчык кудравый!
Карагод валітца — девак ня стала.
Девак ня стала — пяралома пабрала
Пяралома пабрала да ў вір пакідала.

(с. Юркавічы Гом. у.)

Дзісненскі ў Віл. губ.
Запісы Е. Раманава (В. 8-й, 1912).

Туман, туман на даліні (2)
Шырок лісток на каліні
Шыры таго на дубочку,
Клічыць голуб галубачку,
Хоць ні сваю, дык чужую:
Пастой, міла, пацалую.
На што тое цалаванне
Сэрцу тугі задаваньне?
Ні задавай сэрцу тугі,
Ня возьміш ты, возьміть другій!
В чыстым полі за лазою,
Плачыть девіца сьлязою.
«Пірастань, деўка, сьлязой літца
Я ня думаю жанітца.
... Разлучылі нас з табою,
Як рыбачку із вадою
Тяжка рыбца біз вады быть,
Тіжалей мне цябе празабыть».

Запісы з Ашмянскага п. Віл. г.
Е. Раманаў. «Белорусский сборник». Быт белоруса. Вільна, 1912 г.

Вечар добрый, паненачка,—
Віном, віном зялёным.
На сянажаці, да на поплаві,
Там хадзіла курапат стада;
Між тых курапат мядуначка.
Скуль браўся сілязень сізый,—
Ён усе курапаты паразганяў,
А Чырычынку за чубок узяў.
Яна стала прасіціся,
Прасіціся-маліціся:
«Пусьці-ж мяне да пташачак,
Да пташачак, да грумадачак!
... Ці пристаніш,
З малодкамі паровінь станіш.

Бараніся елкай,
Каб ня была дзеўкай.
Бараніся ялаўцом,
Каб ня была за ўдаўцом!

(с. Дубіны Ашмянск. п.)

Плыў чаўнок па рэцца,
Да плакаў дзяцюк па дзеўца:
Да де-ж мне дяцюку падетца?
... Дзеваччына коніка папасі
За яе вадіцу панасі.

(с. Дубіны Ашм. п.)

Е. Р. Раманаў. «Материалы по этнографии Гродненской губ.» В. 2, 13—17 стр.

## Калі едуць да шлюбу

«Росплыньше, Дунаю, по бору,
По ўшелякум жіелю.
Росплаціше Ганулю,
До слюбу едуцы:
Там руцкі жвязут
І верное слово сказут.
— Цом-ж та мніе нэ казалі,
Як руцок нэ вяжалі?
Тэрас мніе нэ казнетэ
І сэрдэнька нэ смутіетэ.

...

Ой брасцалі заліезны возы
у дорожы.
Заплакала то люба Марыша
ў коморы.
Ой заль-зэ мніе, ойцэньку,
На тэбэ
Застаетча дробнэ жэліцко
ў тэбэ.
Просу я тэбэ, муой ойцэньку
Сціхенько:
Полівай мое, жэліцко
Цастэнько.

## Каравайная

А ў городоцку хміель шэ ве,
За городоцком псэніча.
«Ой сказы, сказы моя Марылю,
Хто ў тэбе наймільсы?
— Наймільсы ў менэ ойцэнько,
То мое віернэ сэрдэнько:
«Непраўду казёс, то невіерное слово
А коровай пэцэтчэ для кого?»
— Ой то ля молодого, ля молодого
Ля Яшюленька мілого...



...

Колі хоцэс жячём бычі, той просу до хаты
Потуом выйсла міла с цорнымі бровамі
І зацала рожмоваті ражнымі шловамі:
«Цо мой друг, цо мой мілый, цо так зазурыўшэ
Сам ты сам ты вінаватый, цок ты нэ зэніўшэ.

...

Птаскі, канарэйкі залобна поют;
Нам с тобою, о, мой мілый, рожлуку дают.
Рожлука, рожлука,— цузая шторона:
Ой ніхто нас нэ рожлуцыт, як сыра жемля.

...

То й нэ бэрэжа, той нэ кудрава,
Той не діўцына, шама маладая,
Матка штарая, сэстра малая,
Шама маладая, крошна ткала
Крошна ткутче, ніткі рвутче
Пуд маімі воротамі хлопчі вьютче.
«Дай нэ вітэша, дай нэ бітэша
І на мэнэ маладую нэ надыйтэшя!»
— Мы нэ вьемшя, мы нэ дэрэмшя
А як захоцем, той побэрэмшэ
Пуйдэм у цэркву, рукі жвязут,
Да й добрэ зычі нам пріказут.
Пошлі до цэрквы, рукі жвязалі,
І хоросэнько зычь прыказалі.
Тую пiешнюю то козды шпівае.

А напісаў ей Олександер Шум, з Цорнуй Велікуй (у другой запісе Олекс. Сум.).

## Себежскі павет. Віцебшчына

— Здрастуй.
— Здрастуй.
— Дзе быў?
— На зярэ, тросьць касіў, а ты дзе?
— Аглядаў ярыну, ці ні пара жаць.
— Да, благодарыць госпада бога, скора убяромся.
— Што навіну еў? Смашна? (Навіна — новы хлеб.)
— Нішто, бела — пахуча, а бульба дрэнь.
— Да-а, ні карыстна.

Дзяр. Чарнея, Себеж. пав., Віцебшчына («Материалы»).

## Дзве жанчыны

— Ці ня ведаіш, сястрыцка, дзе я тутыка масла дастану свайму пану?
— Каму ж гэта?
— Ды ўчыцелю, ці ёсьць у вас?

— Не, драка, ў мяне нетуці, а ў Ахрэміхі павінна быць: тры каровы, сімья малая ды йшчэ ня чуць было, каб продавала.
— Нада зьбегаць.
— Ці-ж ты даўно тамыка служыш?
— З восіні.
— Ці за многа?
— За дзінацщать. Дык у яе ёсьць?
— Есьць.
— Прашчай!
— Прашчай.

(Там жа)

### Меншчына

### Расказ старога Андрэя

Да вот паслухайця, што рас за мною было. Было гэта трэцьяго року, як лета было вельмі сухое. Попрасілі мяне жончыны бацькі паехаць, да сустрэць іх плытнікаў. Сказалі яны мне аб гэтым ешчэ надоячы, а назаўтра была, помню ек ціпер, нядзеля. Я так дле паўдні запрог кабылу і паехаў іх сустрачаць. Тым часам покуль я прыехаў да Ярэміч, дык і сонца зайшло. Плытнікаў в Ярэмічах яшчэ ні было, а я далей ні паехаў: куды, думаю, ехаць цямнатою, да й даляй прызнацца, добра й дарогі ня знаў; узяў я да прыпыніўся в адной карчме й стаў іх чакаць.

(«Материалы для изучения белор. говоров» IV (пад рэдакц. Я. Ф. Карскага) — мястэчка Стары Сверждань, Меншчына).

По-за площю крапіушка пяклівая,
Была ў мяне свякроў да сварлівая.
Сварылася свякроў
Як дзень так ноч:
— «Ідзі, мая нявехначка, ад мяне ўпрочь.
Ня садзіся ў ціхом лузі калінаю,
Сяць сабе ў чыстом поле рабінаю.
Будзе ехаць твой міленькі з Украіны,
Угледзіць рабіну за тры мілі.
Ехаў жа міленькій з Украіны
І ўгледзіў рабіну за тры мілі.
Прыехаў да дому, матцэ кажа:
Зьездзіў я Польшу і Украіну,
На бачыў такога древа над арабіну.
— Вазьмі, сынку, сакеру й тапарочык,
Падзі зрубі у рабіне вяршэчак.

(Там жа)

### М. Любч. Навагрудчына.

### Казка

«Жыў дієд (діет) і баба; было у іх три сыны: два разумные, а адзін дурны; паслалі того дурня сабрать людей на вячэру; іон перш привіес мушчин, а потым паслалі яго па бабы, а іон набрав цыэлы вуос дятей пад рубель (жэрдка) і прывіес іх да хаты і пасадіў іх вакрух хаты, а сам пайшоў у хату; а ў яго пытаюць: «дзе-ш тваіе бабы». А іон кажа, пад (пат) хатою, на прызьбе...— «А што яны там робять».— «А што-ш робять — сыр ядуть». Вышлі з хаты, паглядіелі, дак ні бабы, да діеці і у іх ні сыр, а сієг у руках і усіе яны ніжывыя ляжаць. За гэта, чіто іён падушыў рублем дятей, яго павіезьлі тапіть, пасадіўшы в мяшок...»

Адносна гэтага запісу маецца дзве ўвагі рэдактара «Материалов»: 1) Дыфтонг *уо*, паказаны тут, справядлівей лічыць за гук, сярэдні між *о* і *у*, як аб гэтым кажа і запісаўшы; г. зн. трэба чытаць не *уо*, але *оу: «воус»* (а не *«вуос»*) і пад.

2) Адсутнасць дзекання і цекання Я. Ф. Карскі таксама лічыць непаразуменнем, паколькі м. Любча знаходзіцца ў самым цэнтры Беларусі. Аб'ясняе гэта рэдактар тым, што, будучы сам беларусам і, значыць, цекаючы і дзекаючы, запісвацель не замячаў гэтай рысы за другімі сваімі землякамі, як не замячаў і за сабой самім. Дагадка вельмі праўдападобная.

### Верхняе Палессе (на граніцы Ігуменшчыны і Бабруйшчыны).

### Узоры мовы

Воблакі пашлі па небу — трэба сеяць калапень (каноплі). Еты кіслы яблак. Сарві сабе адно яблака. Воблак закрыў сонца — нічога ня відна. На вясельлі ў Івана буде два стала, а ў Пятра летась було чатыры сталы.

У мяне на дварэ дзьве хаце. Ацьсюль да Крамка дзьве вярсьце. Таксама: тры, чатыры, пяць... вярсьце: «чэраз балота да Юравіч дзьве вярсьце, а кругом будзе сем вярсьце па сухому. Ехаў я восеньню етай дарогай ж жонкэй у Слуцэк. Зьвязеўса ён з етой старой бабой. Нагаруесса па чужых людзёх. Ніжодной каровья есь не паклоў. Нігодзін так цьвет не харош, як той васілёчык. Вэн дзьве карове пашлі ў поля. Двох канёў запраглі ў кало'сы. Дзьв'ёх кніг* бачыў на балоця. Дзьв'ём дзеўкам купілі пацяркі. Пашоў брат зь дзьвама сястрамі ў брусьніцы. Адзінаццаць, дванаццаць... дзевятнаццаць; трэйці, чворты, п'яты, дзеў'яты. Абоя, абея і воба, вобе. Двоячы, трэйчы (дважды, трижды).

Чаперашні летні дзень даражэй зімнягa. Зімні дзень карупкі. Мае малоя дзяцятка... заснуло ў калышцы. Аддаюць замуж маленькую дзявіцку. Зьбегай на мажу і прыгонь аттуль храмую карову дамоў! Між намі нету маладой Палажкі. Запрагом коні ў калёсы да й паедом у дзеўкі. Хлопцы! Нясеце няроты ў польку клась. Кладзеце вы луччы етыя снапы ў копы! Ежма скарэй калатушу. Сядзьма пакуром! Скарэй пакрышыма бацьвіньня к абеду!

(І. А. Сербаў. «Белорусы-сакуны». ПТРГР, 1915 г.)

---

* Кніга, кнігаўка — чайка.